Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 61 (5392)
Субота, 25 мая 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

З пасяджэння калегіі Міністэрства адукацыі

## Даручэнні Прэзідэнта выконваюцца

***22 мая адбылася калегія Міністэрства адукацыі, на якой разглядалася пытанне аб рабоце міністэрства па выкананні Пратакола даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, дадзеных на II з'ездзе настаўнікаў і падчас справаздачы Урада Рэспублікі Беларусь 29 красавіка 2002 года.***

Першым са справаздачай выступіў М.С.Фяськоў, начальнік галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі. За першае паўгоддзе гэтага года міністэрствам быў праведзены шэраг мерапрыемстваў па выкананні даручэнняў Прэзідэнта. Па-першае, у План мерапрыемстваў па рэалізацыі Асноўных накірункаў развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі ўнесены змяненні і дапаўненні з улікам сённяшніх пераўтварэнняў, змяненняў у стратэгіі сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі, рашэнняў II з'езда настаўнікаў. Падрыхтаваны і ўнесены ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь План рацыяналізацыі сеткі агульнаадукацыйных вучэбных устаноў. Закрываюцца будуць толькі малакамплектныя школы. Па плану гэтая працэдура закране 57 пачатковых, 42 базавыя і 1 сярэднюю школу. Для вучняў гэтых школ будзе арганізаваны падвоз у бліжэйшую перспектыўную школу.

Прынята Пастанова Савета Міністраў ад 21 сакавіка 2002 года "Аб мерах па ўдасканаленні арганізацыі аплаты працы педагагічных работнікаў", у сувязі з якой у 2002–2003 навучальным годзе педагогам за выкананне арганізацыйна-выхаваўчай работы аплата будзе рабіцца на аснове тарыфікацыі або па гадзінных стаўках..

Сёлета з другога паўгоддзя ў 426 школах Брэсцкай вобласці праводзілася апрабацыя арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу ва ўмовах пяцідзённага вучэбнага і шасцідзённага працоўнага тыдня. Гэта яшчэ адно даручэнне Прэзідэнта. І з 1 верасня 2002 года ўсе агульнаадукацыйныя школы пяройдуць на працу ў новым рэжыме. Сёння ўжо вядзецца актыўная падрыхтоўка: праведзены шэраг мерапрыемстваў (і яшчэ запланаваны), падрыхтаваны змененыя вучэбныя планы (са скарачэннем вучэбных гадзін і такіх прадметаў, як чарчэнне і АЗЖ, якія інтэгрыруюцца ў іншыя прадметы), удакладняюцца метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі і зместу шостага дня працоўнага тыдня. Суботу кожная школа будзе планаваць з улікам сваіх магчымасцей. Заканчваецца дапрацоўка інструктыўна-метадычных матэрыялаў па ўвядзенні прыкладных нормаў 10-бальнай сістэмы ацэнкі вучэбных дасягненняў вучняў.

Зноў распрацавана і адобрана праграма "Інфарматызацыя сістэмы адукацыі". ВНУ поўнасцю забяспечаны камп'ютэрнай тэхнікай, большасць мае доступ да сеткі Інтэрнэт. Пры БДУ створаны Цэнтр інтэрнэтадукацыі. У прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі праводзіцца работа па стварэнню карпаратыўнай інфармацыйнай сеткі Прафнет, якая аб'ядноўвае абласныя вучэбна-метадычныя цэнтры прафесійнай адукацыі і шэраг вучэбных устаноў.

Акадэміяй паслядыпломнай адукацыі, Рэспубліканскім інстытутам прафесійнай адукацыі, Рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы, Нацыянальным інстытутам адукацыі ствараецца інфармацыйны банк прагрэсіўных інавацый і тэхналогій. Ён рэалізуецца ў камп'ютэрным выглядзе і дае магчымасць дыстанцыйнага навучання.

Міністэрствам адукацыі, Акадэміяй паслядыпломнага навучання, профільнымі рэспубліканскімі ўстановамі распрацавана сістэма правядзення рэспубліканскіх і рэгіянальных метадычных семінараў і іншых мерапрыемстваў, у рамках якіх забяспечваецца ўкараненне падыходаў і ідэй сучаснай канцэпцыі і праграмы выхавання.

Зацверджана Канцэпцыя ўдасканалення дзяржаўнага кантролю ў нацыянальнай сістэме адукацыі на 2002-2005 гады і праграма яе рэалізацыі, зараз вядзецца распрацоўка новай нарматыўнай базы па пытанні якасці адукацыі. У красавіку праводзілася сацыялагічнае апытанне па якасці адукацыі і выхавання, якім былі ахоплены 15 вучэбных устаноў рэспублікі; апытана каля 4600 навучэнцаў і студэнтаў. Даныя аналізуюцца, вынікі плануецца надрукаваць.

Распрацаваны праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. "Аб стварэнні рэспубліканскага фонду падтрымкі адукацыі", які накіраваны ў Савет Міністраў.

Упраўленнем прафесійна-тэхнічнай адукацыі распрацаваны Каардынацыйны план па здзяйсненню мерапрыемстваў праграмы "Тэхнічнае пераасначшэнне прафесійна-тэхнічнай адукацыі на 2002-2005 гады", у якім павінны прыняць удзел арганізацыі і прадпрыемствы, для якіх ажыццяўляецца падрыхтоўка кадраў.

Аналіз рэалізацыі Плана асноўнах мерапрыемстваў па выкананні Пратакола даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, дадзеных на II з'ездзе настаўнікаў, дазваляе зрабіць высновы, што структурныя падраздзяленні міністэрства і рэспубліканскія падведамасныя ўстановы забяспечылі выкананне прадугледжаных мерапрыемстваў.

Са справаздачай аб выніках работы Міністэрства адукацыі па пытаннях фінансава-гаспадарчай дзейнасці за чатыры месяцы 2002 года, а таксама па разгляду пытанняў па арганізацыі работы па выкананні Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 8 мая 2002 года № 600 "Па рэалізацыі захадаў па выкананні даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, дадзеных пры справаздачы Урада Рэспублікі Беларусь 29 красавіка 2002 года" выступіла Л.І.Субоцкая, начальнік галоўнага ўпраўлення сацыяльна-эканамічнага развіцця Міністэрства адукацыі. Установы адукацыі ў поўным аб'ёме не фінансуюцца. Так, удзельная вага бюджэтных сродкаў у адносінах да валавага ўнутранага прадукту ў 2002 годзе складае 6,7 працэнта замест 10 працэнтаў, прадугледжаных Законам. У 2002 годзе планавыя выдаткі на адукацыю без капітальных укладанняў вызначаны ў суме 1480,0 млрд. рублёў. Удзельная вага выдаткаў галіны ў выдатках бюджэту склала 24 працэнты. Гэтых сродкаў хапае на забеспячэнне выдаткаў па абароненых артыкулах рэспубліканскага і мясцовага бюджэту – заработная плата, стыпендыя, дапамога, прадукты харчавання. У органах дзяржаўнага казначэйства знаходзяцца неаплачаныя плацёжныя даручэнні на суму 4,5 млрд. рублёў, у тым ліку па падручніках – 3,4 млрд. рублёў.

Неплацёжаздольнасць устаноў адукацыі рэспубліканскага падначалення ўзнікае з-за некалькіх прычын: недахопу планавых назначэнняў для выдаткаў на рэальныя выдаткі; адсутнасці фінансавання па выдатках, якія робяцца ў межах сродкаў, якія выдаткоўваюцца; існавання крэдыторскай запазычанасці за 2001 год.

Несвоечасова рабіліся выдаткі па артыкулах бюджэтнай класіфікацыі ва ўстановах адукацыі мясцовага падначалення, у тым ліку па абароненых артыкулах. На 15 мая запазычанасць па заработнай плаце за красавік складала 21 млрд. руб.

Міністэрствам адукацыі пастаянна праводзяцца мерапрыемствы па эканоміі бюджэтных сродкаў, што выдзяляюцца на функцыяніраванне і развіццё галіны. Такія, як рацыяналізацыя сеткі ўстаноў адукацыі; скарачэнне колькасці гадзін у вучэбных планах школ; рэарганізацыя ўстаноў адукацыі, якія выконваюць дубліруючыя функцыі; скарачэнне колькасці адміністрацыйна-гаспадарчага персаналу ўстаноў адукацыі, у тым ліку адміністрацыйна-кіраўніцкага персаналу; упарадкаванне тыпавых штатаў устаноў адукацыі; вызначэнне фіксаванай выплаты педагагічным работнікам на набыццё метадычнай літаратуры; аптымізацыя выдаткаў на харчаванне навучэнцаў ПТНУ і змяншэнне цаны на харчаванне ў школах. Прынятыя меры дазваляюць у разліку на каляндарны год сэканоміць бюджэтныя сродкі на суму 58,0 млрд. руб.

На 2002 год зацверджана праграма мерапрыемстваў па арганізацыі пазабюджэтнай дзейнасці ва ўстановах адукацыі, падначаленых міністэрству. У праграму ўключаны 29 відаў такой дзейнасці. Даходы ад яе за чатыры месяцы гэтага года склалі 38,7 млрд.руб. За кошт іх установамі адукацыі ажыццяўляецца рамонт, набыццё абсталявання, выплата камандзіровак і г.д.

Разам з тым для паспяховай работы ў гэтым напрамку трэба яшчэ распрацаваць праект нарматыўна-прававога акта, на права вызначаць цану на платныя паслугі кіраўнікам установы, зыходзячы з попыту і прапановы; унесці змяненні ў пералік відаў дзейнасці, на якія патрэбны спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі); вызваліць ад падатку сродкі, якія навучэнцы зарабілі падчас практыкі; унесці змяненні ў загад Міністэрства фінансаў "Аб зацвярджэнні метадычных указанняў аб парадку планавання, выкарыстання і ўліку даходаў, атрыманых ад дзейнасці юрыдычных асоб, якія фінансуюцца з бюджэту", у частку планавання выдаткаў па артыкулах даходаў і выдаткаў па пазабюджэтнай дзейнасці, скасаваўшы бюджэтныя нормы, тарыфы і расцэнкі; разгледзець магчымасць планавання рэнтабельнасці пры вызначэнні кошту платнай адукацыі ў дзяржаўных установах, якія забяспечваюць атрыманне сярэдняй спецыяльнай адукацыі, вышэйшых прафесійна-тэхнічных вучылішчах і прафесійна-тэхнічных каледжах.

З заключнай прамовай перад удзельнікамі калегіі выступіў Міністр адукацыі П.І.Брыгадзін, які, у прыватнасці, заўважыў, што галоўны абавязак работнікаў асветы – забяспечыць дзіця якаснай адукацыяй пры захаванні яго здароўя. Сёння перад навучальнымі ўстановамі пастаўлены тры задачы – якасць адукацыі, якасць выхавання і вырашэнне фінансавых праблем. Пазабюджэтная дзейнасць не ставіць мэты зарабіць грошы, заўважыў Міністр, яна вучыць кіраўнікоў адукацыі распараджацца сваімі фінансавымі рэсурсамі. Пётр Іванавіч заклікаў кіраўнікоў на месцах загадзя паклапаціцца аб своечасовай выплаце настаўнікам адпускных, а таксама памеркаваць над тым, як без памылак і аптымальна перайсці на пяцідзённы вучэбны тыдзень.

Па завяршэнні работы калегіі была прынята пастанова з улікам унесеных у яе прапаноў.

**Ева ІСТРАЦЬКОВА.**

## Гарант развіцця грамадства

***Шостая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, якая з 15 па 17 мая праходзіла ў Мінску, была прысвечана самай актуальнай і абмяркоўваемай у адукацыйных колах тэме - якасці адукацыі і кіраванню ёю ў інтарэсах устойлівага развіцця грамадства.***

***Сёння "Настаўніцкая газета" прапануе вашай увазе матэрыялы канферэнцыі на старонцы "Якасць адукацыі".***

У мерапрыемстве прынялі ўдзел практыкі, упраўленцы, навукоўцы з нашай краіны, Расіі, а таксама прадстаўнікі Украіны і Татарстана. Арганізатарамі гэтай падзеі выступілі Міністэрствы адукацыі Беларусі і Расіі, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, Маскоўскі педагагічны дзяржаўны універсітэт і Міжнародная акадэмія педагагічнай адукацыі.

На працягу трох апошніх гадоў беларускімі і расійскімі вучонымі сумесна вывучаўся феномен якасці адукацыі на ўсіх узроўнях. Таму канферэнцыю можна лічыць пэўным вынікам гэтага прадуктыўнага супрацоўніцтва. Тэма канферэнцыі таксама была падказана рэформай школы, якая выявіла, што пераўтварэнні ў сферы адукацыі павінны адбывацца праз павышэнне адукацыйных і выхаваўчых паслуг, ад якіх, у сваю чаргу, залежыць як якасць жыцця асобнага чалавека, так і якасць дзеянняў усіх дзяржаўных структур. Арганізатары канферэнцыі выказвалі надзею, што сустрэча і абмен думкамі дазволяць удакладніць шматлікія пытанні арганізацыі работы па павышэнні якасці адукацыі, па зместу катэгорый "якасць адукацыі і выхавання" і г.д.

Паказальна, што адкрыццё канферэнцыі прайшло ў памяшканні ліцэя БДУ, які на сёння ўяўляе сабой самую сучасную, абсталяваную, прыгожую, камфортную школу. Удзельнікі мелі магчымасць ацаніць добрыя ўмовы і выдатную матэрыяльную базу ліцэя.

З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнуліся – П.І. Брыгадзін, Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь, і Л.С. Грабнёў, намеснік Міністра адукацыі Расійскай Федэрацыі.



Асноўная ўвага на пленарным пасяджэнні была скіравана на даклад А.І. Жука, першага намесніка Міністра адукацыі нашай краіны, доктара педагагічных навук, прафесара. Тэма яго выступлення – "Праблемы якасці адукацыі ў сучасных умовах". Якасцю адукацыі сёння заклапочаны ўсе краіны свету, бо менавіта з ёю яны звязваюць будучы росквіт і моц дзяржавы, што знайшло адлюстраванне ў міжнародных праграмных дакументах. Сусветная гандлёвая арганізацыя прызнала адукацыю сферай паслуг. Гэта не выпадкова, бо менавіта адукацыя задавальняе патрэбы грамадства, дзяржаўных структур, прамысловасці, бізнесу і чалавека, які жадае вучыцца. У апошні час назіраецца тэндэнцыя інтэграцыі адукацыйных прастораў многіх краін, якія імкнуцца знайсці адзіныя крытэрыі ацэнкі якасці адукацыі, адзіныя прыёмы ў кіраванні ёю, што якраз зараз і актуальна ў адносінах паміж Беларуссю і Расіяй, а канкрэтная праца ў гэтым напрамку цяпер вядзецца. Аляксандр Іванавіч назваў асобныя праблемы, якія стаяць перад нашай адукацыяй: высокі працэнт дзіцячых захворванняў, разрыў паміж адукацыяй і выхаваннем, адсутнасць патрэбнай матэрыяльна-тэхнічнай базы, камерцызацыя ВНУ, у якія выпускнік школы без дадатковай падрыхтоўкі паступіць не можа, скарачэнне навуковай дзейнасці ў ВНУ і іншыя. Ён таксама спыніўся на тым, што ж такое якасць адукацыі і якія тыпы кіравання існуюць.

Першы дзень канферэнцыі прадоўжыў сваю работу па 10 секцыях, дзе дэталёва, з практычнымі прыкладамі разглядаліся пытанні па кіраванні якасцю адукацыі ў дашкольных, сярэдніх агульнаадукацыйных установах, установах спецыяльнай, дадатковай, прафесійнай адукацыі і ВНУ, у рэгіёне, у сістэме павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў, а таксама былі абмеркаваны пытанні па псіхалагічным і метадалагічным суправаджэнні ў кіраванні якасцю адукацыі.(Па тэматыцы 9 секцый выдадзены брашуры, куды ўвайшлі навукова-метадычныя артыкулы).

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

## Ці будзе святам апошні званок?

Па стану на 21 мая запазычанасць па зарплаце педагогам па Гродзеншчыне склала 2 мільярды 441 мільён рублёў. Поўнасцю выплачана зарплата толькі ў абласным цэнтры. Найбольшую суму павінны выплаціць у Смаргоні – 324 мільёны рублёў і Воранава – 201 мільён рублёў.

Як паведамілі ў планава-эканамічным аддзеле Мінскага абласнога ўпраўлення адукацыі, па стану на 23 мая сума запазычанасці па зарплаце складае 3 мільярды 600 мільёнаў рублёў. Пашанцавала педагогам з Барысава, Салігорска і Жодзіна – яны ўжо атрымалі зарплату за красавік. Разлічыліся з сельскімі настаўнікамі Мінскі і Салігорскі раённыя аддзелы адукацыі. У 19 раёнах запазычанасць па зарплаце не ліквідавана.

Шкада, што ў дзень 25 мая, калі ў школах прагучыць апошні званок, у многіх настаўнікаў будзе далёка не святочны настрой. А ўвогуле нядаўна ў тэлефоннай размове дырэктар сельскай школы з Магілёўшчыны на пытанне аб зарплаце сказаў: "Мы ўжо прывыклі атрымліваць зарплату 29, 30 чысла. Не было б яшчэ горш". Сумныя словы.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Весткі

### Ці лёгка быць маладым?

***Такую назву атрымала апошняя гульня КВЗ паміж камандамі ПТВ.***

На сцэну актавай залы Дзяржынскага ПТВ № 212 выйшлі каманды ПТВ № 93 "Убойная сила", ПТВ № 107 "Лицей одарённых" Мінска і гаспадароў – "Безбашенный городок".

У першым конкурсе-прывітанні ўсе каманды засведчылі настрой на перамогу. Наступныя конкурсы – размінка і капітанскі. Апошні меў адмысловую назву – "Маладосць мая – Беларусь".

На астатак было хатняе заданне. У ім знайшлі месца мініпастаноўкі розных гумарэсак, анекдотаў, песні і танцы.

Гульня праходзіла з пераменным поспехам. А лідэрам стала каманда ПТВ з Дзяржынска.

### На конкурс паклікаў Дзяржынск

***У беларускай гімназіі Дзяржынска створаны атрад ЮІР (юныя інспектары руху), якім кіруе выкладчык У.У.Жук.***

Нядаўна тут адбыўся конкурс-спаборніцтва ЮІР. У ім прынялі ўдзел юныя інспектары школ як Дзяржынскага, так і Клецкага, Стаўбцоўскага, Нясвіжскага раёнаў.

Конкурс меў выключна выхаваўчае значэнне.

Узнагароды пераможцам уручыў начальнік АДАІ РАУС маёр міліцыі В.У.Герман.

**Тамара ШАЎЧЭНКА.**

### Школе – 150 гадоў

***Міхаіл Орда, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у свой час быў абраны ў гэты заканадаўчы орган жыхарамі Дзятлаўшчыны.***

Міхаіл Сяргеевіч з ахвотаю адгукнуўся на запрашэнне прыняць удзел у юбілейных урачыстасцях з нагоды 150-годдзя Ахонаўскай базавай школы Дзятлаўскага раёна.

Прыгожыя і прачулыя словы ў адрас настаўніцкага і вучнёўскага калектываў дэпутат падмацаваў і матэрыяльна – уручыў юбілярам камп'ютэр і каляровы прынтэр.

З Міхаіла Сяргеевіча ўзялі прыклад шматлікія госці.

Сярод запрошаных на адмысловае свята былі прадстаўнікі Расіі, Літвы, абласцей, адказныя службовыя асобы Дзятлаўскага райвыканкама, мясцовыя жыхары – хлебаробы калгаса "Гвардыя".

**Наш кар.**

### Прайшоў фестываль дзіцячай творчасці

***Днямі Калінкавіцкім тэрытарыяльным цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва праведзены фестываль дзіцячай творчасці "Крыштальная жамчужына".***

Яго падрыхтавала аддзяленне "Сям'я і школа" гэтай установы. У мерапрыемстве ўдзельнічалі дзеці-інваліды горада і раёна. Да арганізацыі фестывалю асабліва спрычыніліся дырэктар Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Святлана Дзяргач, загадчыца аддзялення гэтага цэнтра Ніна Заленская, псіхолаг Святлана Васько, намеснік старшыні райвыканкама Ніна Пракапенка, загадчыца аддзела адукацыі Людміла Башылава і інш.

Вучні. якія вылучыліся на фестывалі, будуць прадстаўляць Гомельшчыну на аналагічным мерапрыемстве рэспубліканскага значэння ў Мінску.

**Аляксандр ГРУШЭЦКІ.**

## Віншуем!

За шматгадовую плённую працу па навучанню і выхаванню падрастаючага пакалення, значны ўклад у развіццё сістэмы адукацыі Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №243 ад 8 мая 2002 года прысвоены **ганаровыя званні**:

"Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь"

– ***Аляхновічу Уладзіміру Адамавічу*** – дырэктару Філатаўскага тэрытарыяльна-школьнага комплексу Круглянскага раёна;

– ***Апімаху Мікалаю Антонавічу*** – дэкану факультэта дашкольнага выхавання Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка;

"Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь"

– ***Гружэўскаму Міхаілу Мар'янавічу*** – дырэктару сярэдняй школы № 1 Ашмян.

Навіны

### Гомельшчына вызначылася

***У Гомелі адбылася нарада кіраўнікоў педустаноў, якую ладзіла ўпраўленне адукацыі аблвыканкама.***

Як паведаміла рэдакцыі намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Лідзія Кацегава, на ёй ішла размова пра першачарговыя задачы па выкананню кіраўнікамі педустаноў задач, вызначаных на аналагічнай рэспубліканскай нарадзе.

Пра ўдасканаленне арганізацыі адукацыйнай прасторы Гомельшчыны, выпраўленне пэўных пралікаў, ход рэфармавання сярэдняй школы гаварыў у змястоўным дакладзе, насычаным інфармацыяй, фактамі, высновамі, начальнік упраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама Андрэй Лук'яновіч.

Аўдыторыю прысутных складалі загадчыкі аддзелаў адукацыі райвыканкамаў, дырэктары школ Гомельшчыны, кіраўнікі пазашкольных устаноў вобласці.

У рабоце нарады прыняў удзел намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Казімір Фарыно.

**Уладзімір НОВІК.**

# Ці па сілах школьнікам нарматывы?

***Апошнім часам ад настаўнікаў фізкультуры горада Мінска ўсё часцей можна пачуць скаргі на як быццам бы невыканальныя для школьнікаў нарматывы. Зацікавіліся гэтай праблемай і ў нашай рэдакцыі. Сапраўды, чаму нарматывы абавязковыя для здачы толькі ў сталіцы і ці праўда тое, што вучні проста фізічна не здольныя іх выканаць? А, можа, нарматывы і наогул не патрэбны?***

***З гэтымі пытаннямі я звярнулася да намесніка дырэктара гарадскога цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнскай моладзі Камітэта па адукацыі і справах моладзі Уладзіміра Іосіфавіча ЭЛЬЯШЭВІЧА. Вось як ён пракаменціраваў сітуацыю:***

– Яшчэ ў сістэме фізічнага выхавання былога Савецкага Саюза існавалі залікі для 4, 9, 11 класаў. Цяпер мы пайшлі іншым шляхам. Зыходзячы з таго, што ў пачатковай школе ўсе прадметы выкладае адзін і той жа настаўнік і фізічная культура ў большасці выпадкаў не з'яўляецца выключэннем, мы адмянілі залік у 4 класе. А вось у 9 і 11 класах пакінулі. Але... залік па фізічнай культуры ў школе павінен праводзіцца ў адпаведнасці з палажэннем аб іспытах і заліках. На жаль, такога палажэння ў нас няма. Інакш кажучы, яно існуе пакуль толькі ў выглядзе праекта. Таму зараз пры правядзенні залікаў педагогі кіруюцца загадам "Аб дыферэнцыраваным заліку па фізічнай культуры для вучняў выпускных 9, 11 класаў агульнаадукацыйных навучальных устаноў усіх тыпаў г.Мінска". У ім канкрэтна вызначана, якія вучні допускаюцца да здачы нарматываў, а якія не. Да ліку вызваленых адносяцца вучні, што займаюцца ў спецыяльных медыцынскіх групах, тыя, хто толькі што перанёс хваробу, і іншыя. Адным словам, спецыялісты ўлічылі ўсе нюансы, каб не нашкодзіць здароўю дзіцяці. Настаўнік заўсёды павінен адчуваць адказнасць за здароўе вучняў, а вучні ў сваю чаргу – за ўласнае фізічнае развіццё.

Цяпер патлумачу, чаму настаўнікі фізкультуры горада Мінска не задаволены такой сітуацыяй і скардзяцца на тое, што вучні, маўляў, не могуць выканаць нарматывы. Возьмем, да прыкладу, нарматывы для адзінаццатага класа. Такое практыкаванне для дзяўчат, як пад'ём тулава, на выдатна павінна выконвацца 44 разы за хвіліну. На самай справе многія дзяўчаты выконваюць за гэты час 50, а то і 60 пад'ёмаў. Перавышаюць патрабаванні і паказчыкі па чаўночнаму бегу. А вось бег на 1100 метраў выклікае ў дзяўчат цяжкасці, у хлопцаў такая праблема адсутнічае. У вас не ўзнікае пытання, чаму так атрымліваецца? Уся справа ў тым, што нельга, як гэта ў нас часта бывае, з 1 верасня па 25 мая праводзіць заняткі ў спартыўнай зале. Трэба займацца з дзецьмі на свежым паветры пры першай магчымасці. Да таго ж у гадавым планаванні практычна адсутнічаюць гадзіны, адведзеныя на развіццё вынослівасці. Хаця бывае і так, што яны ў план уключаны, але выконваюцца не заўсёды. У тым выпадку, калі ідзе планамерная падрыхтоўка да кожнага з практыкаванняў, дык і вынікі, я ўпэўнены, будуць станоўчыя. А калі настаўнік разам з дзецьмі ўвесь год "прасядзіць" у зале, а потым яны адразу прыступяць да здачы нарматываў, тады, безумоўна, можа быць і страта прытомнасці, і сыходжанне з дыстанцыі і інш. Вось у чым асноўная праблема.

Магчыма, яшчэ ўплывае і тое, што шэсць-сем гадоў назад мы рабілі асноўны ўхіл на развіццё рухальных якасцей і таму пакінулі па-за ўвагай іншыя моманты, і цяпер гэта адбіваецца на сённяшніх выпускніках.

Назіраецца парадаксальная сітуацыя. Ёсць скаргі настаўнікаў на тое, што для рознабаковага фізічнага развіцця вучняў не хапае спартыўнага інвентару. Але мне даводзілася сутыкацца і з іншым стаўленнем: менавіта яго (інвентару) адсутнасць пазбаўляе ад адказнасці, дазваляе некаторым "педагогам" аблягчаць працэс выкладання, зводзячы ўсё да гульні ў баскетбол, валейбол і г.д. Няма мячоў – добра, не трэба вучыць дзяцей разнастайным передачам, тэхніцы вядзення мяча... Няма лыж – выдатна, не трэба абцяжарваць сябе заняткамі на свежым паветры, а то яшчэ і дробным рамонтам пасля іх. Няма гранат для кідання – цудоўна, сам факт аўтаматычна пазбаўляе дзяцей траўматызму, бо калі нічым не займацца – нічога і не пашкодзіш. Выказваючы гэтую думку, я ні ў якім разе не хацеў бы зняважыць настаўнікаў фізкультуры, якія адказна ставяцца да сваёй працы.

Зусім нядаўна да мяне прыйшоў педагог адной са сталічных школ. Ён прадставіў дакументы, згодна з якімі 80 працэнтаў вучняў выпускнога класа вызвалены ад заняткаў фізкультурай у асноўнай групе па стану здароўя. У такім выпадку залік, пра які мы гаворым, і здача ўсялякіх нарматываў наогул губляюць сэнс. Аднак асабіста ў мяне такая сітуацыя выклікае вось якое пытанне: чаму паводле даных дакументацыі стан здароўя гэтых жа дзяцей у іншых класах дазваляў ім займацца ў асноўнай групе, а з набліжэннем выпускных іспытаў вучні хутка набываюць разнастайныя захворванні? Выснова можа быць толькі адна: або настаўнікі – злачынцы, якія перанагружаюць вучняў так, што гэта выклікае хваробы што, на мой погляд, малаверагодна, або... змест даведкі, якую школьнік прыносіць таму ж настаўніку, не адпавядае рэальнасці, інакш кажучы, хвароба – толькі на паперы.

Такі стан спраў хвалюе спецыялістаў ужо даўно. Таму з боку нашага цэнтра ў Рэспубліканскі дыспансер спартыўнай медыцыны, а таксама ў Камітэт аховы здароўя паступіла прапанова праверыць работу некаторых паліклінік горада Мінска.

Сёння задача настаўнікаў фізічнай культуры – захаваць тую спадчыну, якую мы маем. Нам у школе не патрэбны спорт вышэйшых дасягненняў, мы ставім перад сабой рэальныя задачы. І калі будзе ясна і дакладна арганізаваны вучэбны працэс, дык і ўсе нарматывы будуць выконвацца нашымі вучнямі з лёгкасцю.

**Наталля АЛЁХІНА.**



"Са спортам сябруем" – пад такім дэвізам у Віцебску прайшлі спартландыі дашкольных устаноў абласнога цэнтра. Дзеці паказалі сваю спрытнасць, рухавасць, спартыўнасць. І спаборніцтвы ператварыліся ў захапляючую гульню.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

# Прадмет, неабходны кожнаму

## Якім яму быць?

***Міністр адукацыі Пётр Брыгадзін разам з Міністрам спорту і турызму Яўгенам Ворсіным правёў у Акадэміі фізічнай культуры нараду па праблемах фізічнай культуры і спорту. Можна лічыць, што сур'ёзная размова пра фізічнае выхаванне школьнікаў ва ўмовах рэформы агульнай адукацыі, пра становішча вучэбнага прадмета "Фізічная культура", перспектывы яго далейшага развіцця толькі пачалася на гэтай нарадзе. Таму ўзнікла рашэнне прадоўжыць яе на старонках газеты.***

### Як зрабіць кожны дзень цікавым і карысным

Прымаючы пад увагу той факт, што фізічная культура з'яўляецца сродкам, які дазваляе супрацьстаяць разбурэнню генафонду нацыі, мы прапанавалі ўключыць не менш як тры ўрокі фізічнай культуры на тыдзень на працягу ўсяго перыяду навучання. Рэспубліка Беларусь – першая сярод краін СНД прыняла такое рашэнне. Гэты аб'ём вучэбнага часу забяспечвае неабходны ў сучасных умовах мінімум агульнага фізічнага выхавання і сістэматычнасць фізічнай падрыхтоўкі маладога пакалення. Вельмі важнымі з'яўляюцца аздараўленчы і рэабілітацыйны эфекты.

Спецыялістам, якія маюць дачыненне да школьнай рэформы, вядома, што асноўнымі яе прынцыпамі з'яўляюцца дэмакратызацыя і гуманізацыя агульнай адукацыі. Фізічная культура – адзіны гуманістычна арыентаваны вучэбны прадмет агульнаадукацыйнай школы, які дае аздараўленчы эфект, аднаўляе і павышае разумовую і фізічную працаздольнасць вучняў. Заняткі фізкультурай даюць такія вынікі, як карэкцыя фізічнага развіцця, фізічная падрыхтаванасць, прафілактыка скрыўленняў пазваночніка і інш., уплываюць на агульнае фізічнае і духоўнае аздараўленне.

Вядома, што дзеці стамляюцца ў школе ад напружанай разумовай працы і традыцыйнай для айчыннай школы арганізацыі вучэбнага працэсу. Урок фізічнай культуры садзейнічае рэабілітацыі школьнікаў у рэжыме вучэбнага дня. У нармальных гігіенічных умовах фізічная культура можа стаць дзейсным сродкам псіхічнай разгрузкі і фізічнага аздараўлення, разрадкі і адпачынку вучняў. Калі мы адмовімся ад трэцяга ўрока, практычна ўсе гэтыя магчымасці будуць страчаны.

Значэнне фізічнай культуры не так даўно, але правільна зразумелі на Захадзе. Там старанна сочаць за сваім здароўем. Характэрна, што першым сродкам яго захавання для большасці эканамічна развітых краін з'яўляецца фізічная культура. І гэта цалкам натуральна, таму што падтрымліваць і ўмацоўваць здароўе з дапамогай фізкультуры намнога танней і больш надзейна, чым аднаўляць з дапамогай медыцыны. Гэта неабходна ўмець рабіць самастойна. Бо фізічныя практыкаванні, якія выконваюцца з веданнем справы, можна параўнаць з моцнадзейнымі лекамі, прынятымі своечасова і ў аптымальнай дозе. Калі ж практыкаванні выконваюцца чалавекам не асабліва дасведчаным, яны не даюць чаканых вынікаў і ў занадта вялікай дозе могуць нават стаць небяспечнымі. Навучыць дзяцей правільна выкарыстоўваць фізічныя практыкаванні – адна з галоўных задач вучэбнага прадмета "Фізічная культура".

Для гэтага школьнікі павінны быць фізічна падрыхтаванымі і валодаць ведамі і навыкамі, неабходнымі для самастойных заняткаў. Трэба падрыхтаваць іх да рэгулярных заняткаў псіхалагічна. Вучань павінен быць глыбока перакананы ў іх карыснасці і абавязковасці. Яму неабходна мець моцную волю, каб прымусіць сябе працаваць над уласным целам, адмовіцца ад шматлікіх "задавальненняў". Выдатна, калі ён зробіць выбар на карысць здаровага ладу жыцця. Улічваючы гэта, вучэбны прадмет "Фізічная культура" павінен адпавядаць патрабаванням формулы здароўя: падтрымліваць цэласнасць свайго арганізма, быць кампетэнтным і адказна ставіцца да сябе.

Формула здароўя пакладзена ў аснову Дзяржаўнага фізкультурна-аздараўленчага комплексу – нарматыўнай і праграмнай базы фізічнага выхавання. Менавіта яна вызначае змест вучэбных праграм па фізічнаму выхаванню.

У нашым разуменні вучэбны прадмет "Фізічная культура" павінен дапамагчы вучню як мага больш цікава і карысна пражываць кожны дзень свайго жыцця. Акрамя таго, урокі фізкультуры могуць навучыць школьнікаў, якія праз нейкі час самі стануць татамі і мамамі, сачыць за сваім целам, каб потым навучыць гэтаму сваіх дзяцей. Выхаванне павінна быць такім, якім бачыў яго Іаан Златавуст: каб дзеці навучыліся выхоўваць сваіх дзяцей, а тыя сваіх, "...и золотая таким образом замкнется цепь". Разлічваць на імгненны поспех у справе станаўлення асобы, фізічна развітай і дасведчанай, нерэальна. Але дарогу адолее той, хто ідзе.

Галоўнай фігурай, ад якой залежыць фарміраванне фізічнай культуры асобы, з'яўляецца вучань. Аднойчы ён дасягае таго ўзросту, калі сам можа вырашаць, як яму жыць, якім яму быць, і нясе адказнасць за прынятае рашэнне. Таму змест прадмета "Фізічная культура" павінен даваць веды і вопыт, неабходныя для прыняцця ў канчатковым выніку правільнага рашэння.

Адной з важных задач фізічнай культуры з'яўляецца навучанне дзяцей здароваму ладу жыцця. Для гэтага, акрамя ведаў, неабходны перакананні, якія абапіраюцца на сацыяльны і асабісты вопыт. Гэтую задачу пад сілу вырашыць толькі вучэбнаму прадмету, які фарміруе такі асабісты вопыт – "Фізічнай культуры".

### Узроставыя асаблівасці і фізічнае выхаванне

Новыя праграмы распрацоўваюцца намі так, каб у вучняў фарміравалася неабходная матывацыя да фізкультурных заняткаў. Наша краіна мае багатыя алімпійскія традыцыі. У нас жылі і жывуць легендарныя людзі – вядомыя ўсяму свету алімпійскія і сусветныя чэмпіёны. Імі захапляюцца паўсюль, яны вартыя пераймання ў лепшых сваіх якасцях. Іх імёны і подзвігі знайшлі адлюстраванне ў праграмах.

Выхаванне фізічнай культуры асобы – шматэтапны працэс. Змест вучэбнага прадмета "Фізічная культура" павінен фарміравацца і вывучацца з улікам гэтага фактару. Традыцыйна вылучаюцца тры этапы: малодшы, сярэдні і старэйшы школьны ўзрост.

Важны момант у жыцці дзіцяці – паступленне ў школу. Да гэтага перыяду асноўным відам і мэтай дзейнасці з'яўляецца гульня. Гуляючы, дзіця асвойвае навакольны свет і вучыцца жыць у ім. Пасля паступлення ў школу вядучай дзейнасцю становіцца вучэбная. Цяпер мэтай гульневай дзейнасці з'яўляюцца навучанне, выхаванне і развіццё, накіраваныя на фарміраванне пачатковага ўзроўню фізічнай культуры асобы.

Мы лічым, што ў працэсе фізічнага выхавання эфектыўным сродкам навучання і развіцця напачатку застаюцца рухомыя гульні. Потым яны паступова выцясняюцца іншымі формамі вучэбнага прадмета "Фізічная культура". Але гульневы метад у пачатковай школе застаецца адным з вядучых. Фізічнае выхаванне грунтуецца на гульневай аснове і накіравана на асваенне школы рухаў. Усе гэтыя ідэі ўлічаны ў распрацаваных намі праграмах для пачатковай школы. Але, як паказваюць вынікі праведзенага сацыялагічнага апытання, значная частка настаўнікаў пачатковых класаў не гатова да іх практычнай рэалізацыі. Акрамя гэтага, у многіх школах вучні пачатковых класаў "выцясняюцца" са спартыўных залаў старшакласнікамі ў не прыстасаваныя для заняткаў памяшканні. У такіх умовах і падрыхтаваныя настаўнікі не могуць рэалізаваць закладзены ў праграмах змест.

Для сярэдняга школьнага ўзросту характэрныя самасцвярджэнне праз розныя віды дзейнасці, імкненне паводзіць сябе як дарослыя ва ўзаемінах з равеснікамі. У гэтым узросце адным з асноўных відаў дзейнасці з'яўляецца спартыўная. Яна дазваляе атрымаць сярод таварышаў ацэнку, адэкватную ўзроўню дасягненняў падлетка.

Гэтыя пазіцыі ўлічваюцца ў працэсе распрацоўкі зместу вучэбнага прадмета "Фізічная культура" ў базавай школе. Таму аснову зместу новых праграм у сярэднім школьным узросце па-ранейшаму складае вывучэнне асноў розных відаў спорту. Гэта абумоўлена асаблівасцямі пераходнага ўзросту, для якога ўласціва змена вядучых відаў дзейнасці.

У старэйшым школьным узросце адбываецца пераацэнка каштоўнасцей і свядомы выбар маладымі людзьмі свайго далейшага жыццёвага шляху. У гэты перыяд фарміруецца светапогляд, вызначаюцца каштоўнасці і стаўленне да розных сфер дзейнасці. Для пераважнай большасці маладых людзей у гэтым узросце фізічная культура ў яе ранейшым выглядзе ўжо страчвае сваю актуальнасць. Для фарміравання новых арыенціраў неабходна абнаўленне зместу вучэбнага прадмета. Ён павінен улічваць патрэбы і інтарэсы асобы.

Таму ўжо да старэйшага школьнага ўзросту павінны быць набыты асноўныя веды і назапашаны вопыт самастойнай практычнай дзейнасці, неабходныя для фарміравання разумнага стаўлення да фізічнай культуры. Да гэтага ўзросту школьнікі павінны ведаць спосабы фізкультурнай, і асабліва спартыўнай, дзейнасці, а таксама мець звязаныя з імі элементарныя веды. Выпускнік базавай школы павінен атрымаць завершаную агульную фізкультурную адукацыю, неабходную яму для самастойных заняткаў.

Для гэтага, пачынаючы з 8-9 гадоў навучання, за кошт гадзін школьнага кампанента ўводзяцца вучэбныя дысцыпліны па выбару. Аснову іх зместу павінны складаць спосабы фізкультурнай і спартыўнай дзейнасці, якія ўяўляюць цікавасць для моладзі, супадаюць з інтарэсамі асобы ў старэйшым школьным узросце. Гэта могуць быць такія курсы, як "Аэробіка", "Атлетычная гімнастыка", "Спартыўнае ушу", "Школа мужнасці", "Сучасныя спартыўныя танцы" і г.д.

У старэйшым школьным узросце змест вучэбнага прадмета "Фізічная культура" павінен фарміравацца, як і раней, дыферэнцыравана – з улікам здароўя, псіхалагічных асаблівасцей, фізкультурных і спартыўных інтарэсаў вучняў, а таксама сацыяльнага заказу. Асноўнымі напрамкамі дыферэнцыраванага фізічнага выхавання вучняў старшых класаў, на нашу думку, могуць быць наступныя: спартыўнае з развіццёвай і рэкрэацыйна-рэабілітацыйнай накіраванасцю на базе аднаго з відаў спорту (маецца на ўвазе спорт "для сябе" на базавым і павышаным узроўнях асваення фізічнай культуры для ўсіх напрамкаў профільнай дыферэнцыяцыі); фізічнай прафесійна-прыкладной падрыхтоўкі для ліцэяў, ліцэйскіх класаў пры вышэйшых навучальных установах з вызначанай спецыфікай будучай прафесійнай дзейнасці, а таксама для ваенізаваных агульнаадукацыйных навучальных устаноў, на павышаным і паглыбленым узроўнях асваення фізічнай культуры; агульнай фізічнай падрыхтоўкі для школ з недастатковай базай для дыферэнцыраванага фізічнага выхавання і для дзяцей, якія не жадаюць займацца спортам на базавым і павышаным узроўнях асваення фізічнай культуры; аздараўленча-рэабілітацыйны на аснове рэкамендаваных аздараўленчых сістэм для дзяцей з абмежаваннем заняткаў фізічнымі практыкаваннямі на базавым і павышаным узроўнях асваення фізічнай культуры; лячэбны для інвалідаў і дзяцей, якія маюць патрэбу ў адаптыўнай фізічнай культуры; спартыўны з паглыбленым асваеннем выбранага віду спорту ў спецкласах для таленавітых у спартыўных адносінах дзяцей.

### Абавязковыя прыярытэты

Распрацоўваючы змест вучэбнай дысцыпліны "Фізічная культура", мы вылучаем некалькі абавязковых прыярытэтаў. Гэта захаванне традыцыйных гуманістычных прынцыпаў айчыннай сістэмы фізічнага выхавання, якія не страцілі актуальнасці ў наш час, дапоўненыя сучасным зместам; арыентацыя на фізкультурную адукацыю – яна забяспечвае самастойнае правільнае выкарыстанне сродкаў фізічнай культуры ў розных сферах жыццядзейнасці; станаўленне асобы, здольнай да самаразвіцця; захаванне прынцыпу адпаведнасці ўзроставa-палавым асаблівасцям вучняў; выдзяленне ў фізічным выхаванні варыятыўнага кампанента – ён дазволіць кожнаму настаўніку прыўнесці ў вучэбны прадмет нешта сваё, уласцівае яму як спецыялісту і што павышае прывабнасць вучэбнай дысцыпліны; улік неспрыяльных экалагічных умоў. Пад уплывам неспрыяльных экалагічных умоў узнікае стан, які можна разглядаць як пагранічны паміж нормай і паталогіяй. Гэта значна павышае патрабаванні да зместу, індывідуалізацыі фізічнага выхавання і ўрачэбна-педагагічнага кантролю над ім. Сувязь з нацыянальнай культурай. Фізічнае выхаванне, з'яўляючыся элементам сістэмы адукацыі, таксама павінна захоўваць, перадаваць і прымнажаць гэтыя каштоўнасці, выкарыстоўваючы свае спецыфічныя сродкі, якія каранямі ўваходзяць у нацыянальную культуру. Да іх адносяцца перш за ўсё народныя рухомыя гульні і танцы. Інтэлектуалізацыя і ўзмацненне аздараўленчай накіраванасці. Для гэтага яго змест павінен быць звязаны з адукацыйнымі і рэкрэацыйна-геданістычнымі функцыямі.

Каб дзеці не нанеслі сабе шкоды, займаючыся фізічнай культурай, новыя праграмы напаўняюцца неабходнымі гігіенічнымі ведамі, рухальнымі і метадычнымі ўменнямі і навыкамі, спосабамі дзейнасці, якія вучань можа выкарыстоўваць самастойна сёння. Адначасова ўсе яны могуць быць выкарыстаны і ў далейшым жыцці, таму што новы змест фізічнай культуры забяспечвае не толькі функцыянальную і каардынацыйную падрыхтаванасць да фізічнага самавыхавання ў пэўны момант. Яна фарміруе спосабы дзейнасці, якія могуць быць выкарыстаны ў наступныя перыяды жыцця, а таксама веданне і вопыт іх прымянення.

Гэта далёка не ўсе праблемы праектавання, метадычнага забеспячэння і рэалізацыі зместу вучэбнага прадмета "Фізічная культура". Практычна не была асветлена праблема вучэбнай базы для заняткаў фізічнай культурай. Патрабуюць абмеркавання пытанні распрацоўкі вучэбна-метадычнага комплексу. Калі не стварыць каманду аднадумцаў і не займацца распрацоўкай вучэбна-метадычнага комплексу, дык нават самыя лепшыя праграмы застануцца нерэалізаванымі. Галоўная ж праблема – падрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі кадраў, здольных увасобіць у жыццё сучасную ідэалогію фізічнага выхавання. Для гэтага неабходна адпаведная канцэпцыя фізкультурнай адукацыі.

"Фізічная культура" з'яўляецца прадметам, які ў наш час патрэбны кожнаму. Якім ён павінен быць, каб кожны атрымаў тое, што яму неабходна сёння і ў далейшым жыцці? Працягваючы размову, распачатую на II з'ездзе настаўнікаў, уяўляецца карысным абмеркаваць на старонках "Настаўніцкай газеты" акрэсленыя намі падыходы да распрацоўкі зместу і вырашэння іншых праблем вучэбнага прадмета "Фізічная культура".

**Уладзімір КРАЖ,**
**кандыдат педагагічных навук,**
**прафесар кафедры тэорыі і методыкі фізічнай культуры БДАФК,**
**загадчык сектара фізічнага выхавання Нацыянальнага інстытута адукацыі.**

Турызм

# Палатка як сімвал працы

***Лета для большасці з нас - гэта пара адпачынку. Для школьнікаў тым больш, бо доўгачаканыя канікулы яшчэ толькі пачынаюцца. Аб тым, як дзеці правядуць свой вольны час, задумваюцца не адны бацькі, клапоцяцца аб гэтым і шматлікія пазашкольныя ўстановы. Некаторыя з іх ужо "адкрылі летні сезон". Наша сённяшняя размова - з дырэктарам Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Сяргеем Сцяфанавічам МІТРАХОВІЧАМ.***

**- Натуральна, што з цягам часу інтарэсы падрастаючага пакалення мяняюцца. Што можна сказаць аб попыце сучаснай моладзі на паслугі вашага цэнтра, наколькі турызм і краязнаўства папулярныя сярод іх сёння?**

- Рух наперад, сродкі масавай інфармацыі, новыя віды адпачынку мяняюць адносіны дзяцей да тых формаў выхаваўчай працы, з якімі да іх прыходзіць педагог. Сапраўды, калі ўзяць 50-я, 60-я, 70-я гады, дык асабліва папулярнай была, да прыкладу, прафесія геолага. Рамантыкай былі авеяны падарожжы. Але час бярэ сваё, і сёння ў нас ёсць такія канкурэнты, як камп'ютэр, дыскатэкі... Але ўсё роўна адносіны да турызму і цяпер застаюцца станоўчымі ў дзіцячым і маладзёжным асяроддзі. Дастаткова зайсці ў клас і спытаць: "Дзеці, мы пойдзем у паход?" Думаю, абыякавых будзе вельмі мала. Турызм мае даволі высокі і ўстойлівы рэйтынг.

**- Які ўдзел плануе прыняць Рэспубліканскі цэнтр турызму і краязнаўства ў арганізацыі летняга адпачынку вучняў у гэтым годзе?**

- Летам турыстычны рух асабліва актывізуецца. Але тут ужо працуюць у асноўным не школы, а аздараўленчыя летнікі, а таксама пазашкольныя установы выхавання і навучання. На сённяшні дзень у рэспубліцы працуе 57 устаноў турысцка-краязнаўчага профілю (у абласных цэнтрах і шматлікіх гарадах), яны праводзяць са школьнікамі вандроўкі, у тым ліку і катэгарыйныя. Патлумачу: катэгарыйнымі называюцца складаныя турыстычныя вандроўкі працягам больш шасці дзён і працягласцю больш ста кіламетраў. Школьнікі могуць хадзіць у вандроўкі нават трэцяй катэгорыі: па незаселенай мясцовасці, па тэрыторыі са складаным рэльефам і г.д.

У апошні час мы актыўна выкарыстоўваем такую форму працы, як стварэнне турыстычных летнікаў. Яны былі вельмі папулярныя у 50-я, 60-я гады, а потым пра іх незаслужана забыліся. Мяркую, забыліся таму, што крыху пазней, ў 80-я, 90-я гады, мы мелі магчымасць выдзяляць на дзіцячы адпачынак больш сродкаў. Зараз мы зноў вяртаемся да забытага старога . У такіх летніках дзеці самі гатуюць стравы, а значыць не трэба трымаць абслуговы персанал, траціць грошы на пражыванне. Усе грошы, якія выдзяляюцца на адпачынак, ідуць, што называецца, "у кацёл", на харчаванне, а таксама на арганізацыю экскурсій. Падлеткі жывуць у палатках у палявых умовах. Акрамя таннасці, такія летнікі маюць яшчэ адзін станоўчы бок - выдатныя ўмовы для выхавання. Тое, што падлеткі займаюцца самаабслугоўваннем (самі ставяць палаткі, арганізуюць пад кіраўніцтвам педагога свой вольны час і г.д.), ідзе ім на карысць.

**- Зусім нядаўна адбыўся тэматычны тыдзень турызму і краязнаўства. Якім чынам ён праходзіў, што можна сказаць, падводзячы вынікі?**

- Ужо чацвёрты год запар па ініцыятыве нашага цэнтра і пры актыўнай падтрымцы Міністэрства адукацыі, Міністэрства спорту і турызму, Міністэрства культуры і пры сузаснавальніцтве Беларускага фонду "Мы - дзецям", а таксама Беларускага экскурсійнага вытворчага аб'яднання "Беларустурыст" праводзіцца тыдзень турызму і краязнаўства. Менавіта апошні тыдзень навучальнага года, калі закончаны амаль усе заняткі, становіцца часам актыўных вандровак, экскурсій, злётаў, турысцкіх спаборніцтваў. Дарэчы, ужо каторы год Міністэрства культуры на гэты час дае магчымасць школьнікам бясплатна наведаць музеі краіны. Рэспубліканскае свята адкрыцця тыдня прайшло ў нацыянальным аздараўленчым летніку "Зубраня". Чаму менавіта там? Цэлы месяц у летніку адпачывала змена юных турыстаў і краязнаўцаў з усёй рэспублікі, для іх быў арганізаваны комплекс мерапрыемстваў. Пакідаючы "Зубраня", кожнае дзіця перадае эстафету свята ў свой куток.

На мой погляд, свята атрымалася. Вынікі будзем падводзіць крыху пазней, праааналізаваўшы, як праходзіў тыдзень у рэгіёнах, якія мерапрыемствы былі арганізаваны. Напрыканцы мы заўсёды збіраем прапановы, накіраваныя на паляпшэнне правядзення тыдня, на выкарыстанне новых формаў працы.

**- Сёння так шмат размоў вядзецца аб здаровым ладзе жыцця. На вашу думку, турызм ужо сам па сабе з'яўляецца адным са стрыжневых у гэтым важным пытанні?**

- Турызм выхоўвае, загартоўвае, вучыць. Выхоўвае - таму што ў цяжкіх умовах вандроўкі вучань раскрываецца педагогу падчас з нечаканага боку. Вучыць - таму што на практыцы пашыраецца кола ведаў аб прыродзе і гісторыі нашай краіны. Значную ролю адыгрывае і аздараўленчы бок вандровак: свежае паветра, рухальная актыўнасць, умераныя фізічныя нагрузкі з пляцаком за плячыма - усё аказвае найлепшы ўплыў на арганізм дзіцяці. Гіпадынамія - хвароба, размовы пра якую вядуцца ўжо многія гады. Тэлевізар, камп'ютэр, пасіўны лад жыцця... Аздараўленчыя магчымасці турызму - вельмі высокія.

**- Сяргей Сцяфанавіч, вы ўжо 17 гадоў на чале цэнтра. Прадоўжыце, калі ласка, фразу "Мая праца - гэта..."**

- Мая праца для мяне - не толькі праца, гэта мой лад жыцця, гэта развіццё дзіцячага турызму, гэта вялікая колькасць часу, праведзенага ў камандзіроўках. Калі для некага сімвал камандзіроўкі - гасцініца, дык для мяне - палатка.

Наогул праца у пазашкольнай установе - гэта перш за ўсё творчасць, а турысцкія установы тым больш даюць магчымасць пашырэння кругагляду, наладжвання узаемін з рознымі людзьмі. Гэта ўзаеміны не ў сценах кабінетаў, аўдыторый, а ў незвычайных, неардынарных умовах. Магчыма, гэта для мяне самае галоўнае. А яшчэ я атрымліваю асалоду ад разумення таго, што турызм вельмі многае дае дзецям.

**Наталля АЛЁХІНА.**

